Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# Рэгіянальная ГАЗЕТА

No 30(66) 26 ліпеня– 1 жніўня 1996 года Цана свабодная

ІНФАРМАЦЫЙНА-РЭКЛАМНАЕ ВЫДАННЕ

## Падзея тыдня

Асноўным вынікам сустрэч афіцыйнай дэлегацыі нашай рэспублікі ў Стамбуле і Анкары стала падпісанне пакета беларуска-турэцкіх дакументаў, у тым ліку і самага важнага– Дагавора аб дружбе і супрацоўніцтве. Адзначана, што калі ў час нядаўняга візіту ў Францыю былі дасягнуты толькі запэўніванні развіваць з Беларуссю супрацоўніцтва, то ў Турцыі атрыманы канкрэтныя вынікі. У прыватнасці, выдзяленне Эксімбанкам 20-мільённага крэдыту, які будзе накіраваны на будаўніцтва, нафтахімію, перапрацоўку сельгаспрадукцыі. "Мы разглядаем наш візіт у Турцыю ў кантэксце ўзятага намі курсу на збалансаванае развіццё розных вектараў знешняй палітыкі Рэспублікі Беларусь",– заявіў А. Лукашэнка.

А тым часам ва ўнутраным жыцці рэспублікі другі тыдзень доўжыцца палітычны крызіс. Пачатак яго пакладзены заявамі прэзідэнта аб падрыхтоўцы да рэферэндуму, адным з пытанняў якога будзе змяненне Канстытуцыі, накіраванае на ўмацаванне стану кіраўніка дзяржавы. Кіраўнікі сямі вядучых партый выступілі са зваротам да ўсіх грамадзян Рэспублікі Беларусь (быў апублікаваны толькі ў газеце "Свабода"). Вызначыўшы сваё бачанне грамадска-палітычнай і сацыяльна-эканамічнай сітуацыі, яны заклікалі прэзідэнта, прэм'ер-міністра, старшынь Вярхоўнага Савета і Канстытуцыйнага Суда прыняць удзел у "круглым стапе".

Нягледзячы на палітычныя рознагалоссі, лідэраў партый аб'яднала, па словах Станіслава Багданкевіча, жаданне "узнавіць першынство Канстытуцыі". А на думку кіраўніка камуністаў Сяргея Калякіна, вынікам "круглага стала" можа стаць падпісанне сумеснага дакумента– дагавора аб нацыянальнай згодзе, пры ўмове павагі існуючай Канстытуцыі. Такім чынам, упершыню ў гісторыі суверэннай Беларусі ў абарону Асноўнага Закона паставілі разам свае подпісы і БНФ, і камуністы.

Але ўсё адно, нягледзячы нават на сенсацыйную заяву дэпутата Дзяржлумы Расіі Ілюхіна аб існаванні змовы ЗША супраць суверэнітэту Беларусі, якая яшчэ больш умацавала ў гэтыя дні супрацьстаянне, нішто не змагло азмрочыць святкаванне ў Мінску Дня Незалежнасці. Прадстаўнікі амаль усіх партый (за выключэннем камуністаў) прайшлі разам, адной калонай, ад сквера імя Я. Купалы да Палаца спорту, дзе правялі санкцыянаваны ўладамі мітынг, які сабраў крыху менш за дзесяць тысяч чапавек.

29 ліпеня прэзідэнт на рэспубліканскім паседжанні па пытаннях уборкі ўраджаю заявіў, што падрыхтаваны ўказ аб мерах па стабілізацыі палітычнага становішча. І калі ўборка становіцца прадметам палітычнай увагі, то ў гэты час не можа быць ні мітынгаў, ні забастовак, іх можна перанесці на зіму.

*Аляксандр УЛАДЗІН.*

## Адным абзацам

❑ За першае паўгоддзе аб'ём валавага ўнутранага прадукта ў рэспубліцы знаходзіўся на ўзроўні мінулага года, у прамысловасці адзначаны рост на 1,6%, сярэднямесячная інфляцыя склала менш 3%– такія вынікі работы народнай гаспадаркі, падведзеныя Кабінетам Міністраў. Аднак абнадзейваць яны не могуць, бо многія заводы амярцвілі абаротныя сродкі ў таварах на складах, павялічыліся неплацяжы ў бюджэт і дэфіцыт гандлёвага балансу. Без зніжэння выдаткаў вытворчасці, прыцягнення знешняга фінансавання і структурнай перабудовы прамысловасці, стабілізацыі не дасягнуць. Адна з магчымых мер пашырэння рынкаў збыту і стымулявання экспарту– дэвальвацыя нацыянальнай валюты.

❑ Прадметам увагі на селектарнай нарадзе ў прэзідэнта стала жніво, а таксама пытанні барацьбы за сёлетні ўраджай збожжавых, які, па папярэдніх дадзеных, на 10-15% можа перавысіць леташні. Закупка збожжа-96 праавансаваная на 75%, цяпер многае залежыць ад разваротлівасці на месцах, ад парадку і заклапочанасці справай. Слова непасрэдна за гаспадаркамі.

❑ 9 жніўня ў Крамлі адбудзецца цырымонія інаўгурацыі прэзідэнта Расіі Барыса Ельцына. Сярод запрошаных гасцей будзе і А. Лукашэнка.

❑ 25 ліпеня на возера Нарач магутнымі аўтацягачамі быў дастаўлены прэзідэнцкі цеплаход– дзвюхпалубная пасудзіна даўжынёю прыкладна 40 метраў.

❑ Лідэр БНФ Зянон Пазняк і яго намеснік Сяргей Навумчык папрасілі ў адпаведных службаў ЗША палітычнага прыстанішча.

❑ Беларускімі спартсменамі заваяваны першы залаты медаль на Алімпіядзе ў Атланце, усяго ў скарбонцы нашых алімпійцаў больш дзесятка ўзнагарод. Па гэтаму паказчыку яны апярэджваюць Вялікабрытанію, Іспанію, Швецыю, Галандыю, Фінляндыю і іншыя краіны.

❑ 4 жніўня – Дзень чыгуначніка. Сёлета гэта свята асобае, бо беларуская чыгунка адзначае сваё 125-годдзе. Чыгуначнікам– нашы сардэчныя віншаванні!



## У Ракуцёўшчыне з'явіўся свой "Мірон", але шукаць яго ніхто не збіраецца



*МАЛАДЗЕЧНА. Спакойна і з павагай ставяцца на Маладзечаншчыне да нацыянальных (а да нядаўняга часу і дзяржаўных) сімвалаў– бела-чырвона-белага сцяга і герба "Пагоня". Гараджане добра памятаюць, як пасля мінулагодняга рэферэндуму (які, дарэчы, тут не адбыўся), над будынкам гарвыканкома перыядычна ўзнікаў "крамольны" сцяг.*

А ў Дзень Незалежнасці сябры дэмакратычных арганізацый пад нацыянальнымі сцягамі ўсклалі кветкі да помніка пакутнікам за волю і незалежнасць Беларусі і накіраваліся ў Ракуцёўшчыну– на месца правядзення традыцыйнага свята песні і паэзіі, прысвечанага Максіму Багдановічу. Тут іх чакаў сюрпрыз– на пажарнай вышцы лунаў сімвал нашай незалежнасці, які невядомы мясцовы "Мірон" вывесіў ноччу. Увогуле, увесь узгорак насупраць эстрады стракацеў бела-чырвона белымі сцягамі, на што супрацоўнікі міліцыі і прадстаўнікі мясцовай улады рэагавалі спакойна: "У нас дэмакратыя..."

**Апошняе інтэрв'ю маньяка-забойцы: "КРОПКА ПАСТАЎЛЕНА" (ст.2)**

Святочную атмасферу не парушыў ніхто. І вершы Максіма Багдановіча, Леаніда Дранько-Майсюка, Дануты Бічэль-Загнетавай, Алеся Чобата, Віктара Шніпа, песні ў выкананні беларускіх бардаў Алеся Камоцкага, Алега Атаманава, Эдуарда Акуліна, Вольгі Цярэшчанкі, выступленні фальклорных ансамбляў сцвярджалі: "Жыве Беларусь!"

*Алесь ЛІПСКІ.*

## Навіны

### Тэлефануйце

*МАЛАДЗЕЧНА. Каля трыццаці гараджан звярнуліся сёлета ў гарвыканком са скаргамі аб парушэннях правілаў гандлю і бытавога абслугоўвання.*

За ўсім гэтым– адсутнасць кансультацыйных службаў, недастатковае інфармаванне насельніцтва, недасведчанасць, іншыя прычыны, якія не дазваляюць у поўнай меры забяспечыць абарону спажывецкіх інтарэсаў.

Менавіта таму ў горадзе створана "гарачая лінія". Тры тэлефонныя нумары– 76114, 71419, 74047 прымаюць інфармацыю аб парушэннях спажывецкіх правоў. Заявы аб парушэннях рэгіструюцца ў спецыяльным журнале.

Кантроль за працэсам ускладзены на аддзел гарвыканкома па гандлю, грамадскаму харчаванню і бытавому абслугоўванню насельніцтва.

*Наталля РАБЧАНКА.*



### Японцы адкрываюць... Астравец

*Мэту свайго прыезду на Астравеччыну генеральны сакратар таварыства японa-беларускай дружбы Наота Тауці і старшыня таварыства Тацуа Харыай вызначылі так: наведаць мясціны, звязаныя з жыццём першага рускага консула ў Краіне Узыходзячага Сонца, вучонага Восіпа Гашкевіча. У Японіі цяпер пашыраецца непадробная цікаўнасць да постаці славутага беларуса– дыпламата, складальніка японска-рускага слоўніка, этымолага і заолага.*

Госці агледзелі помнік В. Гашкевічу ў райцэнтры, наведалі мемарыяльны пакой-музей у вёсцы Малі, сустрэліся з кіраўніцтвам раёна і работнікамі мясцовага аддзела культуры.

*Аддзел інфармацыі.*

### Імперыя пахіснулася

*МАЛАДЗЕЧНА. Школа мастацтваў размежавалася. Каля трох тысяч дзяцей наведвалі яе, амаль трыста настаўнікаў перадавалі свае веды.*

Гігант мясцовай адукацыі перастаў існаваць. Вядуцца будаўнічыя работы. Старая школа будзе перагароджана.

Настаўнікаў ужо размеркавалі з улікам іх асабістага жадання. З першага верасня дзеці разыдуцца па двух напрамках– музыканты, танцоры, спевакі пойдуць у школу мастацтваў да Людмілы Васілевіч, астатнія, праз другі ўваход, прыйдуць у СШ №12. З дырэктарам таксама знаёміцца не трэба– былы завуч Валянціна Атрушкевіч не адразу згадзілася на павышэнне.

*Аддзел інфармацыі.*



### Лекі з новай аптэкі

*МАЛАДЗЕЧНА. Быць багатым і здаровым– лепш, чым бедным і хворым. Але калі вас, не дай Бог, прыцісне нейкая немач, то неабходныя лекі можна набыць у новай аптэцы, што адкрылася ўчора ў Маладзечне.*

Тут, бадай, як нідзе ў горадзе, у шырокім асартыменце прадстаўлены айчынныя і імпартныя медыкаменты, прадметы догляду за хворымі, дзецьмі, вітаміны, фітапрэпараты французскай фірмы "П'ер Фабр".

Усё– ну па вельмі даступнай цане. Паспрыяюць, безумоўна, выздараўленню ветлівае, уважлівае абслугоўванне, а таксама кансультацыі, якія вы зможаце атрымаць у аптэцы ад Белмедінфарма.

Застаецца толькі запомніць адрас новай медычнай установы: вул. Будаўнікоў, 26 (інтэрнат завода пёгкіх металаканструкцый). Працуе аптэка №12 з 9 да 20 гадзін без перапынку на абед, у суботу– з 9 да 16. Выхадны– нядзеля. Тэл. 68651.

*Аддзел інфармацыі*

### Паляць лес чапляюцца да старых

*СМАРГОНЬ. У рэспубліканскім краязнаўчым летніку "Спадчына", што на беразе Вішнеўскага возера, больш як сто дзяцей не толькі адпачываюць, але і займаюцца карыснай справай– аднаўляюць гісторыю вёсак Гарані, Вішнева.*

Яшчэ ў першую сусветную тут праходзіла лінія фронту, а само возера было абнесена калючым дротам. Следапыты распытваюць вяскоўцаў пра гістарычныя месцы. Жывуць падлеткі ў палатках, перавагу ў харчаванні аддаюць дарам лесу, якія самі знаходзяць і самі спрабуюць гатаваць (нават прайшоў конкурс на найсмачнейшы абед у палявых умовах). Агонь паляць толькі з сухога галля.

Фундатарам двухтыднёвага адпачынку дзяцей з няпоўных сем'яў выступіла рэспубліканская федэрацыя прафсаюзаў.

*Альберт КУМІШЧА.*

### "Бабуліна ляпёшка"

*МЯДЗЕЛ. Па сваіх рэцэптах выпякаюць "асобы армянскай нацыянальнасці" хлеб з незвычайнай назвай.*

У калгасе імя Калініна яны пачыналі з асфальтавання дарог, вытворчасці металічных накрывак, патэльняў. Цяпер у былы пакой механізатара добра стала электрапечка. Плануецца выпякаць да 2 тысяч ляпёшак за дзень.

"Армяне прыехалі, будзем з хлебам",– гавораць вяскоўцы, бацькі ды дзяды якіх самі славіліся вырабамі з цеста. "Бабуліну ляпёшку" будуць даваць у крэдыт, у лік будучай пенсіі ці зарплаты.

*Альберт КУМІШЧА.*

# Праграма тэлебачання

## Понедельник, 5 августа

### Белорусское телевидение

17.05 На добрый лад. 17.20 "Девятый маршрут". Д/ф. 17.50 Музыкальный антракт. 18.00 Финансовое время. 18.25 Экономикст. 18.35 MTV. 18.50, 24.00 Новости. 19.00 "Риск-версия". 19.30 Беларусь — Турция: Новые аспекты политического диалога. 20.10 Белорусский дом. 20.40 Колыбельная. 21.00 Панорама. 21.45 Спортивный телекурьер. 22.00 Музыкальный антракт. 22.10 "Остров Серафимы". Х/ф. 23.25 Телевизионный АРТ-клуб.

### ОРТ

17.00, 0.05 Новости. 17.20 "Новая жертва". 18.10 Час пик. 18.35 "Золотые" моменты Олимпиады. 19.45 Спокойной ночи, малыши! 20.00 Время. 20.40 Церемония закрытия XXVI летних Олимпийских игр.

### Канал "Россия"

16.00, 19.00, 22.00, 23.15 Вести. 16.20 Лицо с обложки. 16.35 Зависит от тебя. 16.50 "Челленджерс". 17.20 Прогулки для аппетита. 17.30 L-клуб. 18.15 Момент истины. 19.35 "Санта-Барбара". 20.30 Погода на завтра. 20.35 Церемония закрытия XXVI летних Олимпийских игр. 23.05 Новинки от ТВ медиа. 23.30 Со скоростью звука.

### Санкт-Петербург

11.55, 12.55, 13.55, 14.55, 16.55, 18.55, 21.55 Информ ТВ. 12.05 "Первая любовь". 13.10 Срок ответа - сегодня. 13.40 Советы садоводам. 14.05 Х/ф "Ищейка". 15.05 М/ф. 15.15 "Криминальный талант". Телеспектакль. 1-я часть. 16.40 Телеслужба безопасности. 17.05 "Философия по Филу". 17.30 "Любопытный слоненок". М/ф(Венгрия). 17.35 Стиль жизни. 17.40 "Иоанн IV Грозный, Федор Колычев — Митрополит Кирилл". Д/ф. 18.40 Большой фестиваль. 19.15 Спорт. 19.20 "Первая любовь". 20.05 Поет Ирина Богачева. 20.40 Телеслужба безопасности. 20.50 Спортивное обозрение. 21.00 Х/ф "Ищейка"(Швеция). 22.10 "Последние холода". Х/ф.

### НТВ

6.00 Анонс недели. 6.05 "Цирк Скотт"(Франция). 7.05 "Похождения бравого солдата Швейка". Х/ф. 8.05 Х/ф "Росаура в десять часов"(Аргентина). 9.45 Д/ф "Загадки Библии". 10.10 "Поезд вне расписания". Х/ф. 11.30, 21.35 Олимпийский час из Русского дома. 12.30 Итоги. 17.00 Д/ф "Дикая природа: борьба за жизнь". 17.30 "Любовь и ненависть". 18.00, 21.00, 23.00 Сегодня. 18.35 Д/ф "Стремление к небесам: история авиации". 18.55 Х/ф "Как вам это понравится?" (Великобритания). 22.30 Времечко. 23.20 Русский альбом. Группа "ДДТ". 2-я часть.

## Вторник, 6 августа

### Белорусское телевидение

7.30 Утренний коктейль. 7.50 Экономикст. 8.00, 15.00, 18.50, 0.05 Новости. 8.15 Авто-парк. 8.30 Бездельник. 9.00 Вселенная. Тележурнал. 9.45 "Все про все". 10.10 М/ф. 10.50 "Рэкс - верный друг полицейского". 11.45 "Это мы не проходили..." 12.00 Туробъектив. 12.20 Акколада. 15.15 "Флиппер". 15.40 М/ф. 16.20 "Мещерская сторона". Д/ф. 16.45 Творцы. 17.20 Уроки Н.Новожиловой. 17.50 Музыкальный антракт. 18.00 "Ночной Эрмитаж". Киноочерк. 18.15 Будьте здоровы. 18.25 Экономикст. 18.35 MTV. 19.00 Вертикаль. 19.30 Футбол. Кубок УЕФА. "Динамо" (Минск) - "Бешикташ" (Турция). 21.20 Панорама. 22.05 Хроника жатвы-96. 22.20 Х/ф "Последняя суббота". 23.35 Музыкальный салон Элеоноры Езерской.

### ОРТ

8.00, 11.00, 14.00, 17.00, 22.30 Новости 8.15 "Новая жертва". 9.05 Клуб путешественников. 9.50 "Пони бегает по кругу". М/ф. 10.00 Смехопанорама. 10.30 "Угадай мелодию". 11.10 ТРК "Мир". 11.55 "Секретный фарватер". Х/ф. 1-я с. 13.00 "Оранжевое Горлышко". М/ф. 13.25 Любовь с первого взгляда. 14.20 "Рыцарь Отважное Сердце". 14.40 Кварьете "Веселая квампания". 14.50 Мультитроллия. 15.10 Волшебный мир, или Синема. 15.40 "Элен и ребята". 16.05 ...До шестнадцати и старше. 16.30 "Вокруг света". 17.20 "Новая жертва". 18.10 Час пик. 18.35 "Угадай мелодию". 19.00 Тема. 19.45 Спокойной ночи, малыши! 20.00 Время. 20.40 Х/ф "Москва, любовь моя". 22.30 Новости. 22.40 Валерий Леонтьев в музыкальной программе "По дороге в Голливуд".

### Канал "Россия"

6.30 Утренний экспресс. 7.00, 10.00, 16.00, 19.00, 22.00, 23.20 Вести. 7.20 "Волшебный школьный автобус". М/ф. 7.50 Время деловых людей. 8.00 L-клуб. 8.45 Клип-антракт. 8.50 "Певец России отдаленной". Д/ф. 9.00 "Санта-Барбара". 9.55 Товары - почтой. 16.20 Лицо с обложки. 16.35 Зависит от тебя. 16.50 "Челленджерс". 17.15 Тележурнал "Здоровье". 17.30 Своя игра, 17.55 Чрезвычайный канал. 18.25 "Ничего, кроме..." 18.40 "Темная" для И.Рыбкина. 19.35 "Санта-Барбара". 20.30 "Городок". 21.00 Погода на завтра. 21.05 "Капитал, или Как сделать деньги в Польше". Х/ф (Польша). 22.40 Подиум. 23.10 Новинки от ТВ медиа. 23.35 Музыка всех поколений. 23.50 Ночная жизнь городов мира.

### Санкт-Петербург

11.55, 12.55, 13.55, 14.55, 16.55, 18.55, 21.55 Информ ТВ. 12.05 "Первая любовь". 13.10 Срок ответа - сегодня. 13.40 Советы садоводам. 14.05 Х/ф "Ищейка". 15.05 М/ф. 15.25 "Криминальный талант". Телеспектакль. 2-я часть. 16.40 Телеслужба безопасности. 17.05 "Философия по Филу". 17.25 "Любопытный слоненок". М/ф. 17.35 Стиль жизни. 17.40 Показывает Ленинградская областная телекомпания. 18.40 Большой фестиваль. 19.15 Спорт. 19.20 "Первая любовь". 20.10 "Таинственная книга перемен". Д/ф. 20.40 Телеслужба безопасности. 20.55 Спортивное обозрение. 21.05 Х/ф "Ищейка". 22.15 "Груз-300". Х/ф.

### НТВ

6.00, 18.00, 21.00, 23.00 Сегодня. 6.15 "Необыкновенные приключения Скуби-Ду". М/ф. 6.40 "Похождения бравого солдата Швейка". Х/ф. 7.40 Х/ф "Дом секретов"(США). 9.10 Д/ф "Загадки Библии". 9.35 Х/ф "Как вам это понравится"(Великобритания). 11.25 Олимпийский час из Русского дома. 12.20 Х/ф "Завтра, 3 апреля..." 17.00 Д/ф "Дикая природа: борьба за жизнь". 17.30 "Любовь и ненависть". 18.35 Д/ф "Стремление к небесам: история авиации". 19.00 Х/ф "Парни из католического колледжа" (США). 20.45 Доктор Угол. 21.35 "Любовь голубая и розовая" (США). 1-я с. 22.30 Времечко. 23.20 Большой ринг. 23.50 Меломания: "Джоан Баэз".

## Среда, 7 августа

### Белорусское телевидение

7.30 Утренний коктейль. 7.50 Экономикст. 8.00, 15.00, 18.50, 24.00 Новости. 8.15 "Острый угол". 8.45 "Придите, поклонимся". Видеофильм. 9.45 "Савраска". Х/ф. 10.50 "Путешествие с оркестром. Штрихи к портрету дирижера Павла Когана". Фильм-концерт. 11.55 Видимо - невидимо. 15.15 "Флиппер". 15.40 "А жизнь короткая такая..." Д/ф. 16.05 "Старинный русский романс и вальс". Фильм-концирт. 17.05 "Под знаком "Ч". 17.25 Кредо. 17.45 Музыкальный антракт. 17.55 Гости в дом. 18.25 Экономикст. 18.35 MTV. 19.05 "Рэкс - верный друг полицейского". 20.00 "Кто это?" 20.05 Супергол. 20.40 Колыбельная. 21.00 Панорама. 21.55 Музыкальный антракт. 22.05 "Благочестивая Марта". Х/ф. 1-я с. 23.15 Королевская охота.

### ОРТ

8.00, 11.00, 14.00, 17.00, 23.05 Новости. 8.15 "Новая жертва". 9.05 Тема. 9.50 В мире животных. 10.30 "Угадай мелодию". . 11.10 ТРК "Мир". 11.55 "Секретный фарватер". 2-я с. 13.00 "Песенка радости". М/ф. 13.25 Любовь с первого взгляда. 14.20 "Рыцарь Отважное Сердце". 14.45 Кактус и К. 14.55 До-ми-соль. 15.10 Зов джунглей. 15.40 "Элен и ребята". 16.05 Тет-а-тет. 16.35 "Вокруг света". 17.20 "Новая жертва". 18.10 Час пик. 18.35 "Угадай мелодию". 19.00 "Парижские тайны Э.Рязанова". 19.45 Спокойной ночи, малыши! 20.00 Время. 20.40 Х/ф "Ночная Маргарита" 23.15 Футбол. Лига чемпионов.

### Канал "Россия"

6.30 Утренний экспресс. 7.00, 10.00, 16.00, 19.00, 22.00, 23.30 Вести. 7.20 "Волшебный школьный автобус". М/ф. 7.45 Дж. Гершвин. "Рапсодия в стиле блюз". 8.05 Своя игра. 8.35 В отдельно взятой Новгородчине. 9.00 "Я не утратил прежний свет..." А.Блок. Д/ф. 16.20 Лицо с обложки. В.Меладзе. 16.35 Зависит от тебя. 16.55 Футбол. Чемпионат России. 19.35 "Санта-Барбара". 20.30 Сам себе режиссер. 21.00 Погода на завтра. 21.05 "В городе Сочи темные ночи". Х/ф. 23.20 Новинки от ТВ медиа. 23.45 Музыка всех поколений.

### Санкт-Петербург

11.55, 12.55, 13.55, 16.55, 18.55, 22.05 Информ ТВ. 12.05 "Первая любовь". 13.10 Срок ответа - сегодня. 13.40 Советы садоводам. 14.05 Х/ф "Ищейка". 15.00 М/ф. 15.20 "Груз-300". Х/ф. 16.40, 20.40 Телеслужба безопасности. 17.05 "Философия по Филу". 17.25 "Любопытный слоненок". М/ф. 17.35 Стиль жизни. 17.40 Показывает Ленинградская областная телекомпания. 18.40 Большой фестиваль. 19.15 Спорт. 19.20 "Первая любовь". 20.10 Только без паники. 20.55 Спортивное обозрение. 21.05 Х/ф "Ищейка". 22.25 "Инспектор ГАИ". Х/ф.

### НТВ

6.00, 18.00, 21.00, 23.00 Сегодня. 6.15 М/ф "Необыкновенные приключения Скуби-Ду". 6.40 "Похождения бравого солдата Швейка". Х/ф. 7.40 Х/ф "Акт возмездия" (США). 9.05 Д/ф "Загадки Библии". 9.30 Х/ф "Парни из католического колледжа" (США). 11.10 "Любовь голубая и розовая". 12.00 Х/ф "Здравствуй, это я". 17.00 Д/ф "Дикая природа: борьба за жизнь". 17.30 "Любовь и ненависть". Х/ф. 18.35 Д/ф "Стремление к небесам: история авиации". 19.00 Х/ф "Последняя граната" (Великобритания). 20.35 Доктор Угол. 21.35 "Любовь голубая и розовая". 2-я с. 22.30 Времечко. 23.20 Такова спортивная жизнь. 23.50 Кафе "Обломов".

## Четверг, 8 августа

### Белорусское телевидение

7.30 Утренний коктейль. 7.50 Экономикст. 8.00, 15.00, 18.50, 0.20 Новости. 8.15 "Сельчане". 8.45 События культурной жизни (N5). 9.05 "Питер Пэн". Х/ф. 1-я с. 10.15 Королевская охота. 10.55 "Рэкс - верный друг полицейского". 11.50 "В гостях у канцлера Коля". Видеофильм. 15.15 "Флиппер". 15.40 М/ф. 16.35 "Соло для трубы". Д/ф. 17.20 Уроки Н.Новожиловой. 17.50 Музыкальный антракт. 18.05 "Под звуки клавесина..." 18.25 Экономикст. 18.35 MTV. 19.05 "Рэкс - верный друг полицейского". 20.05 "Оскар". 20.40 Колыбельная. 21.00 Панорама. 21.55 Хроника жатвы-96. 22.10 "Благочестивая Марта". Х/ф. 2-я с. 23.20 "Крок". 23.50 "Концертный сезон".

### ОРТ

8.00, 11.00, 14.00, 17.00, 23.05 Новости. 8.15 "Новая жертва". 9.05 "Парижские тайны Э.Рязанова". 9.45 Футбол. Лига чемпионов. 10.40 Смак. 11.10 ТРК "Мир". 11.55 "Секретный фарватер". 3-я с. 13.05 "Капризка". М/ф. 13.25 Любовь с первого взгляда. 14.20 "Рыцарь Отважное Сердце". 14.40 Легого! 15.05 Тин-Тоник. 15.35 "Элен и ребята". 16.00 Рок-урок. 16.30 "Вокруг света". 17.20 "Новая жертва". 18.10 Час пик. 18.35 Лотто-Миллион. 19.00 Удивительные истории в программе "Моя семья". 19.45 Спокойной ночи, малыши! 20.00 Время. 20.40 Х/ф "Королева бензоколонки". 22.15 "Обоз".

### Канал "Россия"

6.30 Утренний экспресс. 7.00, 10.00, 16.00, 19.00, 22.00, 22.50 Вести. 7.20 "Волшебный школьный автобус". М/ф. 7.50 Время деловых людей. 8.00 Проще простого. 8.30 Сам себе режиссер. 9.00 "Санта-Барбара". 16.20 Лицо с обложки. 16.35 Зависит от тебя. 16.50 "Челленджерс". 17.15 "Домашний лекарь". 17.30 Клуб губернаторов. 17.55 Ничего, кроме... 18.10 "Темная" для К.Борового. 18.25 Раз в неделю. 19.35 "Санта-Барбара". 20.30 Маски-шоу. 21.00 Погода на завтра. 21.05 "Погоня". Х/ф (США). 22.40 Новинки от ТВ медиа. 23.05 Музыка всех поколений. 23.15 Адамово яблоко.



### Санкт-Петербург

11.55, 12.55, 13.55, 16.55, 18.55, 22.05 Информ ТВ. 12.05 "Первая любовь". 13.10 Срок ответа - сегодня. 13.40 Советы садоводам. 14.05 Х/ф "Ищейка". 15.05 "Инспектор ГАИ". Х/ф. 16.20 М/ф. 16.40, 20.40 Телеслужба безопасности. 17.05 "Философия по Филу". 17.25 "Любопытный слоненок". М/ф. 17.35 Стиль жизни. 17.40 Показывает Ленинградская областная телекомпания. 18.40 Большой фестиваль. 19.15 Спорт. 19.20 "Первая любовь". 20.10 "Телекомпакт". 20.55 Спортивное обозрение. 21.05 Х/ф "Ищейка". 22.25 "Трое в лодке, не считая собаки". Х/ф. 1-я с.

### НТВ

6.00, 18.00, 21.00, 23.00 Сегодня. 6.15 М/ф "Необыкновенные приключения Скуби-Ду". 6.40 "Похождения бравого солдата Швейка". Х/ф. 7.35 Х/ф "Разрывая тишину"(США). 9.10 Д/ф "Загадки Библии". 9.30 Х/ф "Последняя граната". 11.00 "Любовь голубая и розовая". 2-я с. 11.50 Х/ф "Гу-га". 17.00 Д/ф "Дикая природа: борьба за жизнь". 17.30 "Любовь и ненависть". 18.35 Д/ф "Стремление к небесам: история авиации". 19.00 Х/ф "Большая игра" (США). 21.35 "Любовь голубая и розовая". 3-я с. 22.30 Времечко. 23.20 Х/ф "Проводи меня домой" (Германия).

## Пятница, 9 августа

### Белорусское телевидение

7.30 Утренний коктейль. 7.50 Экономикст. 8.00, 15.00, 18.50, 24.00 Новости. 8.15 "Бархатный сезон". 8.45 "В поисках Санкт-Петербурга". Д/ф. 9.15 "Питер Пэн". Х/ф. 2-я с. 10.25 Зеркало. 10.45 "Рэкс - верный друг полицейского". 11.40 "Чаплиниана". Фильм-балет. 15.15 "Флиппер". 15.40 М/ф. 16.10 "Мозаика праздника". 16.40 Шанс. 17.10 Провинция. 17.20 "Контрасты". 17.50 Музыкальный антракт. 18.00 "Я выбираю любовь". Д/ф. 18.25 Экономикст. 18.35 MTV. 19.00 Футбол. Кубок кубков. МПКЦ (Мозырь) - "Рейкьявик" (Исландия). 20.40 Колыбельная. 21.00 Панорама. 21.55 Музыкальный антракт. 22.05 Х/ф "Мимино". 23.40 "12, или На ночь глядя". 0.15 Акколада.

### ОРТ

8.00, 14.00, 17.00, 0.25 Новости 8.15 "Новая жертва". 9.10 Удивительные истории в программе "Моя семья". 9.49 "Солнечный зайчик". М/ф. 9.55 "Играй, гармонь любимая!" 10.30 Торжественная церемония вступления в должность Президента Российской Федерации Б.Н.Ельцина. 12.10 "Секретный фарватер". 4-я с. 13.25 Любовь с первого взгляда. 14.20 "Рыцарь Отважное Сердце". 14.40 Фильм-сказка. "Андриеш". 15.40 "Синдбад-мореход". М/ф. 16.05 "Элен и ребята". 16.35 "Вокруг света". 17.20 "Новая жертва". 18.15 Репортаж о церемонии вступления в должность Президента Российской Федерации. 18.45 Поле чудес. 19.45 Спокойной ночи, малыши! 20.00 Время. 20.45 Х/ф "Звезда пленительного счастья". 1-я с. 22.20 Взгляд 23.05 "Звезда пленительного счастья". 2-я с.

### Канал "Россия"

6.30 Утренний экспресс. 7.00, 10.00, 16.00, 20.00, 22.00, 23.45 Вести. 7.20 "Волшебный школьный автобус". М/ф. 7.50 Время деловых людей. 8.00 Проще простого. 8.30 "Почему слоны?" М/ф. 8.45 Торговый дом "Ле Монти". 9.00 "Санта-Барбара". 9.55 Товары - почтой. 10.20 Видеофильм. 10.30 Торжественная церемония вступления в должность Президента Российской Федерации. 11.30 "Когда открывается небо". Д/ф. 16.20 Лицо с обложки. 16.35 Зависит от тебя. 16.50 "Челленджерс". 17.15 Мой кроха и я. 17.30 Эх, дороги! 17.55 Вертикаль. 18.25 Клуб "АС". 20.00 "Санта-Барбара". 20.55 Погода на завтра. 21.00 Аншлаг и К. 22.05 Х/ф "Провинциальный бенефис". 23.35 Новинки от ТВ медиа. 24.00 Музыкальный Олимп.

### Санкт-Петербург

11.30 А.Глазунов. "Коронационная кантата". 11.55, 12.55, 13.55, 16.55, 18.55, 22.05 Информ ТВ. 12.05 "Первая любовь". 13.10 Срок ответа - сегодня. 13.40 Советы садоводам. 14.05 Х/ф "Ищейка". 15.05 "Виват, Россия!" Фильм-опера. 16.40, 20.40 Телеслужба безопасности. 17.05 "Философия по Филу". 17.25 "Любопытный слоненок". М/ф. 17.35 Стиль жизни. 17.40 Показывает Ленинградская областная телекомпания. 18.40 Большой фестиваль. 19.15 Спорт. 19.20 "Первая любовь". 20.10 "Без названия". 20.55 Спортивное обозрение. 21.05 Х/ф "Ищейка". 22.20 "Трое в лодке, не считая собаки". Х/ф. 2-я с.

### НТВ

6.00, 18.00, 21.00, 23.00 Сегодня. 6.15 М/ф "Необыкновенные приключения Скуби-Ду". 6.40 "Похождения бравого солдата Швейка". Х/ф. 7.40 Х/ф "Смертельное лекарство" (США). 9.15 Д/ф "Загадки Библии". 9.40 Х/ф "Большая игра" (США). 11.25 "Любовь голубая и розовая". 12.15 Х/ф "Эймос" (США). 17.00 Д/ф "Дикая природа: борьба за жизнь". 17.30 Футбольный клуб. 18.35 Д/ф "Стремление к небесам: история авиации". 19.00 Х/ф "На углу, у Патриарших...". 21.35 "Любовь голубая и розовая". 22.30 Времечко. 23.20 Х/ф "Любовники Айседоры" (Великобритания).

## Суббота, 10 августа

### Белорусское телевидение

8.00 Новости. 8.15 "Созвучие". 8.35 Сущность. 9.05 Здоровье. 9.35 Уроки Н.Новожиловой. 10.05 Международные соревнования по конному спорту. 10.50 Все про все. 11.15 "Ералаш". 11.35 "Лгунья". Спектакль. Часть 1-я. 12.40 Мир природы и увлечений. 13.20 "Лгунья". Часть 2-я. 14.25 Коллаж. 14.55 MTV. 15.40 Многоголосие. 16.15 Барьеры. 16.55 Четвертое измерение". 17.35 "Внукам и правнукам сберегите..." 18.15 Галерея. 18.45 Х/ф "У Чертова логова". 20.05 Банка комиксов. 20.40 Колыбельная. 21.00 Новости. 21.45 "Клан пещерного медведя". Х/ф (США). 23.25 Видимо-невидимо. 0.25 Темная комната. Интимный мир.

### ОРТ

7.05 "Ералаш". 7.25 Х/ф "Удар! Еще удар!" 9.00, 14.00 Новости. 9.10 Слово пастыря. 9.30 Не зевай! 10.00 Утренняя почта. 10.35 Смак. 10.55 "Чуден град Москов". Фильм 2-й. 11.25 "Утренняя песенка". М/ф. 11.40 Х/ф "Васса". 14.20 "Сказочка про козявочку". М/ф. 14.35 В эфире - Президентский оркестр. 15.05 Бомонд. 15.25 Окно в Европу. 15.55 Футбол. Чемпионат России. 17.50 В мире животных. 18.30 Х/ф "Сыщик". 1-я с. 19.45 Спокойной ночи, малыши! 20.00 Время. 20.40 "Сыщик". 2-я с. 22.00 Фестиваль в Монте-Карло. 22.50 Брейн ринг. 23.40 Х/ф "Дороги на юг".

### Канал "Россия"

7.00, 13.00, 19.00, 22.00, 23.45 Вести. 7.20 "Мак и Матли". Сериал (США). 7.45 "Элли и Джулс". Телесериал. 8.10, 8.55, 12.20 Клип-антракт. 8.15 Новинки от ТВ медиа. 8.30 Твои возможности, человек! 9.00 "Бродвей" нашей юности". Д/ф. Часть 6-я. 9.30 По вашим письмам. 10.00 Вести в одиннадцать. 10.15 Книжная лавка. 10.30 Доброе утро. 11.25 Врача вызывали? 11.50 Проще простого. 12.25 Голоса старого дома. 13.20 "Эй, ухнем!" 13.35 Де факто. 14.05 "Квини". Х/ф (США). 1-я с. 14.55 Театр моей памяти. 15.20 Пилигрим. 16.00 Лицо с обложки. 16.15 "Труффальдино из Бергамо". Х/ф. 18.25 "Президент России". Видеофильм. 19.35 Субботний вечер с Эдвардом Радзинским. 20.55 Погода на завтра. 21.00 Совершенно секретно. 22.05 "А как же Боб?" Х/ф (США). 24.00 Программа "А".

### Санкт-Петербург

9.15 Стиль жизни. 9.20 Страсти-мордасти. 9.35 "ЛЛД". Телеспектакль. 10.05 "Честь имею". 10.25 Непознанное. 10.55, 12.55, 14.55, 18.55 Информ ТВ. 11.10 Ток-шоу "Наобум". 11.40 По всей России. 11.55 Мы и банк. 12.15 Еще одна Россия. 12.40 Старое танго. 13.10 "Здравствуй, Ольга, хэлло, Ольга!" Фильм-концерт. 14.10 "Сокровища Петербурга". 14.25 Парадоксы истории. "Загадка КФ". 15.05 "1100 лет Венгрии". Д/ф. 15.40 М/ф. 16.00 Равняется любовь. 16.30 Музыкальное приложение к "Зебре". 16.55 Спортивное обозрение. 17.05 М/ф. 17.25 "Кораблекрушение". Х/ф (Чехия). 18.40 Большой фестиваль. 19.20 "О, Мельпомена!" Телеспектакль. 20.55 Светская хроника. 21.10 Блеф-клуб. 21.50 "Парад парадов" представляет. 22.20 "Свой парень". Х/ф (США).

### НТВ

6.00, 18.00, 21.00 Сегодня. 6.15 М/ф "Необыкновенные приключения Скуби-Ду". 6.40 "Похождения бравого солдата Швейка". Х/ф. 7.40 Х/ф "Том Сойер" (США). 9.20 Д/ф "Загадки Библии". 9.40 Х/ф "На углу, у Патриарших..." 11.30 "Любовь голубая и розовая". 12.20 Х/ф "Пэпо". 17.00 М/ф "Динозаврик по имени Динк" (США). 17.30 Дог-шоу. Я и моя собака. 18.30 Х/ф "Женщина с цветами и шампанским". 20.00 Намедни. 20.45 Куклы. 21.35 Х/ф "Человек-слон" (Великобритания). 23.40 Третий глаз. 0.25 Ночной канал. "Плейбой".

## Воскресенье, 11 августа

### Белорусское телевидение

8.00 "Мир оставляю Вам". Д/ф. 8.30 "Конан". М/ф. 8.55 MTV. 9.25 Победитель. 9.45 Все нормально, мама! 10.15 Вершина мира. 10.35 "Все мы родом из детства". 11.35 Арсенал. 12.05 Туробъектив. 12.25 "Поздравляем вас". 13.10 Мост. 13.40 Авто-парк. 13.35 Сельчане. 14.25 "Дикий юг". 14.55 "Золотые ключи". 15.40 Силач. 16.40 Х/ф "Царская охота". 1-я с. 17.45 Бездельник. 18.15 "Царская охота". Х/ф. 2-я с. 19.20 Компьютерный полигон. 19.40 Колыбельная. 20.00 Резонанс. 20.50 Спортивный телекурьер. 20.55 Новости-ТВ. 21.10 Ток-шоу "Карамболь". 21.45 "Мистер Мамочка". Х/ф (США). 23.20 Бархатный сезон.

### ОРТ

7.00 Тираж "Спортлото". 7.10 "Аленький цветочек". М/ф. 7.50 Х/ф "Сто радостей, или Книга великих открытий". 9.00, 14.00, 22.30 Новости. 9.15 "Непутевые заметки" Дм.Крылова. 9.30 Пока все дома. 10.10 Утренняя звезда. 11.00 Служу России! 11.30 Играй, гармонь любимая! 12.00 В городе N. 12.25 Под знаком "Пи". 13.00 Смехопанорама. 13.30 "Тайны пиратских кладов". 14.20 "Звезды оперы". 15.10 Клуб путешественников. 15.55 Как-то раз... 16.10 Мультфейерверк. 17.05 Счастливый случай. 18.00 Песня-96. 19.00 Время. 19.40 КВН-96. 21.45 Футбольное обозрение. 22.30 Любовь с первого взгляда.

### Канал "Россия"

7.00 Д/ф. 7.20 Доброе утро, Европа! 7.45 "Мак и Матли". Сериал (США). 8.10 "Элли и Джулс". Телесериал. 8.35 Устами младенца. 9.05 Футбол без границ. 9.30 Присяга. 10.00 Вести в одиннадцать. 10.15 Русское лото. 11.00 Горячая десятка. 11.55 Проще простого. 12.25, 18.50 Клип-антракт. 12.30 Книжная лавка. 13.00, 19.00, 23.15 Вести. 13.20 "Эй, ухнем!" 13.35 Человек на Земле. 14.05 "Квини". Х/ф. 2-я с. 14.55 Караоке по-русски. 15.15 Диалоги о животных. 15.45 Империя игр. "Ночь в замке". 16.40 Репортер. 17.00 Х/ф "Чокнутый", "Аладдин". 17.55 XX век в кадре и за кадром. "Новая волна". 19.30 Погода на завтра. 19.35 "Кин-дза-дза". Х/ф. 21.50 "К-2" представляет. 22.45 У Ксюши. 23.30 Рек-тайм. 23.45 "Полночный поцелуй". Х/ф (США).

### Санкт-Петербург

10.20 Стиль жизни. 10.35 Весь этот цирк. 10.55, 12.55, 14.55, 16.55, 18.55, 20.55 Информ ТВ. 11.10 Личное дело. 11.40 Еще одна Россия. 12.40 М/ф. 13.10 "Мир будущего". Х/ф (США). 15.10 Шедевры русской хореографии. 15.50 М/ф. 16.00 "Как Динозаврик нашел друзей". 16.15 Бросайка. 17.05 Спортивное обозрение. 17.35 М/ф. 17.50 Дом кино. 18.40 Большой фестиваль. 19.25 "Ювелирное дело". Х/ф. 21.00 Концерт Маши Распутиной. 21.55 Международное обозрение. 22.25 "Летние любовники". Х/ф (США).

### НТВ

6.00 Намедни. 6.40 Куклы. 6.50 М/ф "Необыкновенные приключения Скуби-Ду". 7.15 "Похождения бравого солдата Швейка". Х/ф. 8.15 Х/ф "Семеро смелых". 9.45 Д/ф "Загадки Библии" (США). 10.10 Х/ф "Женщина с цветами и шампанским". 11.25 Х/ф "Человек-слон". 13.25 Х/ф "Жизнь и удивительные приключения Робинзона Крузо". 17.00 М/ф "Горец" (США). 1-я с. 17.30 Телеигра "Сто к одному". 18.00 Сегодня. 18.30 Х/ф "На чужом празднике". 20.00 Итоги.

